© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 52 (1035) ГОД XX 28 СНЕЖНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.





## З КНІГІ „АКТАВЫ"

* * *

*Толькі б ведаць, а шчаслівы быў бы,*
*Што мой сціплы плён не прападзе*
*І на роднай матчынай сялібе*
*Хоць камусьці ў сэрца западзе.*
*Хоць адзіным парасткам узыйдзе,*
*Прарасце, праб'ецца да святла...*
*Толькі б ведаць, а не быў бы ў крыўдзе,*
*Што нямнога доля мне дала.*

* * *

*Балюча — быць ахвярай нечай,*
*Падсудным злыднем быць — ганебна,*
*Нялёгка — мерай чалавечай*
*Караць віну, хоць і патрэбна.*

*Які ж цяжар, якая кара,*
*Калі, спасцігшы лёс свой трудны,*
*Ты сам — суддзя, і сам — падсудны,*
*І сам — падсуднага ахвяра!*

* * *

*Твае балючыя навек мелодыі,*
*Што вываначваюць табе душу,*
*Душой дзяцей тваіх не завалодалі.*
*Скрыгечуць рытмы дзікія ўвушшу.*
*Для юных сэрцаў — то пяскі бясплодныя.*
*І страшна мне падумаць — не хлушу:*
*Няўжо не дойдуць да дзяцей мелодыі,*
*Што выварачваюць табе душу?*

* * *

*Здзіўляешся: за што табе я ўдзячны?*
*За той прасвет у зорках залатых,*
*Што ў цемры лесу нам дарогу значыў,*
*За сцежку тую, што ў кустах густых*
*Зблудзіла раптам, п'яная няйначай,*
*За востры халадок раслінак тых,*
*Што і цяпер бягуць па твары, коцяцца,*
*І выціраць іх мне чамусь не хочацца...*

**Ніл Гілевіч**




### Пуцяводныя думкі

Жыццё — не ярмо, а крылы, творчасць і радасць, а калі хто ператварае яго ў ярмо, дык у гэтым ён сам вінаваты.

*В. Верасаеў*

Сорамна спыняцца, зраўнаўшыся з узорам сваім.

*Квінціліан*

Пазбаўлены празорлівасці не тыя людзі, якія не дасягнулі мэты, а тыя, якія прайшлі міма яе.

*Ф. Ларашфука*

# ТАМ, ДЗЕ РОДЗІЦЦА МАСЛА

Сыравіннай базай існуючага ў Дуброве Беластоцкай ад 1965 года малочнага прадпрыемства з'яўляюцца: Дуброўская, Сухавольская, Навадворская, Сідраўская, Штабінская і Ліпская гміны, налічваючыя аж 5900 членаў пяцідзесяці васьмі цэнтраў скупкі малака, якія знаходзяцца на гэтай тэрыторыі. З такой вялікай колькасці аж 900 сялян — гэта пастаянныя кантрактатары. Сярод іх ёсць нават і такія гаспадары, якія гадуюць аж па 36 дойных кароў. Прыкладам можа быць Сулік Пятро з Старой Каменнай. Найбольшы прылiў малака, як паінфармавалі прэзас вышэй сказанага прадпрыемства Ян Масцібродкі і яго намеснік Станіслаў Чопік, — з цэнтра Капчанка, да якога ўключаны таксама навакольныя вёскі. 5500 літраў у дзень (а столькі ж даюць) — гэта вялікая колькасць. Патрабуе яна вялікай працы з боку скупшчыка. Каб падзяліць цяжар прынамсі напалавіну, кіраўніцтва вырашыла пабудаваць новы цэнтр у Старых Багатырах.

Вялікая колькасць цэнтраў, да ўсіх трэба даехаць. Малако ж не можа чакаць, пакуль скісне. Зімой яшчэ паўбяды. Хіба што дарогу завее. Горш летам. Аднак выхад знайшлі. Ад 15 мая да 31 жніўня, калі пануе спякота — галоўны вораг малака, вырашылі яго браць два разы ў дзень. Патрабуе гэта самаахвярнай працы шафёраў. У сувязі з тым, што вялікая колькасць гэтай белай вадкасці не дазваляе абслугоўваць адначасова некалькі цэнтраў, з якіх некаторыя ляжаць даволі далёка ад прадпрыемства (напрыклад, Пулькова аж у 52-х км), вымушаны яны працаваць нават ноччу.

Як жа з пераробкай? Найлепш прасачыць на прыкладах. Калі ў 1971 г. у малочныя прадукты замянілася 12,4 млн. літраў, то ў 1975 г. — 26 млн. літраў. Вялікі крок наперад. Ды і ўвогуле працуюць тут плённа. План, які вызначала гэтая пяцігодка, закончылі яшчэ 21 кастрычніка бягучага года. Што цяпер? — А гэтыя чатыры з паловай млн. літраў, якія зможам яшчэ перарабіць, — гэта дадатковая прадукцыя, — гаворыць прэзас.

Як відаць, параўноўваючы з пачаткам, колькасць малака намнога павялічылася. У сувязі з гэтым увялі абноўку перапрацоўчых машын. Уставілі новы кацёл і выкапалі трэцюю глыбінную студню. Паявілася таксама новая маслабойка і сыраварская ванная. Але гэта ўсё, што новае, а што са старым? Перарабілі, ды так, каб выціснуць як найбольшую прадукцыйнасць.

Што ж тут робяць, бо яно ж найважнейшае? Усё, што толькі можна зрабіць з малака. Частку перасылаюць на парашковы завод у Бельск, а рэшту замяняюць на сыр і масла (якія маюць па два якасныя знакі), тварог і казеін, малочны парашок і г.д. Калі глянуць на план і выканан-

(Працяг на стар. 4)



*Ядвіга Пігель — брыгадзір дуброўскай малачарні.*

### КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

Калі мінаеш іх у пяці кіламетрах за Заблудавам, едучы па шашы на Нарву, здаецца, што краязнаўца тут нічога не знойдзе. **Ахрэмавічы** — маленькая вёсачка з 18 гаспадаркамі і амаль 90 жыхарамі — прыселі на схіле пясчанага пагорка непадалёк ад колішняга бору **Краснае.** Навокал вёскі раскінуліся палеткі: **Багэнкі, Вярбіннік, Выжар, Галэ, Горка, Жолаб, Завыжар, Залессе, Кавалёва, Пуодвыжар, Сабарнікі, Шырокае.** Над рэчкай **Рэмтузай,** якая ў далейшым сваім цячэнні завецца **Малынкаю,** раскінуліся лугі і пашы: **Жолаб, Кавалёва, Калодзікі,** а побач шумяць лясы: **Багно, Заброддзе, Краснае.** І вось насцярожвае назва бору — **„Краснае"**, слова, якім спакон вякоў нашыя продкі называлі ўсё ім любае, прыгожае. Адтуль і паходзяць у народных песнях *„красныя панны"*, *„красныя маладцы"*, *„краснае сонейка"*, а ў назвах — *Красны Бор* ці *Краснае Сяло.* Значыць, чалавек здаўна аблюбаваў гэты кавалак дрымучай колішняй Блудаўскай пушчы і, бадай, не выпадкова так высока ацаніў яго красу.




Праўда, першае пісьмовае ўпамінанне аб Ахрэмавічах датуецца даволі позна, бо 1674 годам, калі былі аднатаваны баяры **Апанас, Пятро** і **Якаў Ахрэмавічы.** Але няма сумнення, што сама вёска была заснавана значна раней. Яе першапачынальнік, нейкі **Ахрэм,** пасяліўся тут, відаць, недзе ў канцы XV стагоддзя, г.зн. у час, калі ўладальнік Блудаўскай пушчы і яе наваколля — ваявода кіеўскі **Іван Хадкевіч** апынуўся ў 1483 г. у палоне хана крымскіх татараў **Менглі Гірэя.** На чутку аб тым, што ваявода з усёй сям'ёй знаходзіцца ў татарскім ясыры і немаведама, ці выйдзе адтуль жывым, падданыя гарадоў Бельска і Суража пачалі самавольна засяляць самыя ўкромныя ўрочышчы Блудаўскай пушчы. Сярод іх і быў той наш першапачынальнік вёскі **Ахрэм,** што выбраў сабе на сялібу **вытокі** рэчкі **Рэмтузы.** Але яго вольнае ад пана жыццё-быццё не трывала доўга. Сын ваяводы кіеўскага **Аляксандр Іванавіч Хадкевіч,** вярнуўшыся цэлым і здаровым з ханскага ясыру і атрымаўшы высокую і даходную пасаду ваяводы навагрудскага, выпрасіў у караля польскага і вялікага князя літоўскага **Зыгмунта I** сабе на ўласнасць усіх самавольна пасяліўшыхся ў Блудаўскай пушчы сялян. Ды не пакрыўдзіў іх пры гэтым, бо многіх з іх узвёў у ранг **баяраў,** г. зн. шляхты. Пры гэтым пасяліў пры іх яшчэ значную колькасць баяраў з Навагрудчыны і „шарачковай" **шляхты** з Мазоўша. І так перамяша-

(Працяг на стар. 4)

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## У літаратурным аб'яднанні „БЕЛАВЕЖА"

7 снежня 1975 г. адбыўся семінар літаратурнага аб'яднання „Белавежа". З абшырным дакладам на тэму **„Дасягненні беларускага літаратурнага руху за дваццаць год дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства"** выступіў старшыня літаб'яднання **Віктар Швед**. Дакладчык зрабіў агляд літаратурнай творчасці аўтараў, пішучых на беларускай мове ў Народнай Польшчы ад заранку іх дзейнасці і па сённяшні дзень, звяртаючы ўвагу на найбольш важныя падзеі ў 18-гадовым мінулым аб'яднання і даючы характарыстыку дасягненняў кожнага з пішучых. Падкрэсліў ён, між іншым, што творчасці „белавежцаў" уласціва грамадскае заангажаванне, глыбокае пачуццё патрыятызму і інтэрнацыяналізму, а таксама досыць шырокі дыяпазон тэматыкі і форм. Нашыя творцы заўсёды ўтрымлівалі вельмі блізкую сувязь з чытачамі, чаму доказ каля 1 500 аўтарскіх сустрэч, праведзеных імі ў вёсках, мястэчках, школах і гарадах Беласточчыны. Гэта спрыяла папулярызацыі беларускага мастацкага слова ў розных асяроддзях, умацаванню пашаны да роднай мовы, лепшаму разуменню літаратурнай творчасці дарослымі і моладдзю.

Пасля даклада разгарнулася ажыўленая дыскусія. Выступаючыя звярталі ўвагу на тое, што нашыя аўтары падрыхтавалі або рыхтуюць шэраг зборнікаў сваіх твораў, аднак іх выданне спатыкаецца з вялікімі цяжкасцямі і таму неабходна, каб Міністэрства культуры і мастацтва іх друк даручыла аднаму з кніжных выдавецтваў краіны. У 1978 г. літаб'яднанне „Белавежа" будзе адзначаць 20-годдзе свае дзейнасці, і гэта трэба азнаменаваць выданнем чарговага альманаха. У наша аб'яднанне прыходзіць штораз большая колькасць маладых па ўзросту аўтараў і для іх патрэбна дзейсная апека, дапамога і кансультацыя з боку больш вопытных у літаратурнай творчасці нашых старэйшых сяброў. Шкада, што ў працах „Белавежы" не прымаюць удзелу мастакі, хоць аб'яднанне і мае характар літаратурна-мастацкі. ГП БГКТ і праўленне аб'яднання зробяць намаганні, каб заахвоціць іх да ўдзелу ў дзейнасці БГКТ. Падкрэслівалася таксама патрэба глыбейшага літаратуразнаўчага аналізу датэтуляшняй творчасці „белавежцаў", і пажадана, каб гэтай справай заняліся працаўнікі кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

**Літаб'яднанне аб'явіла конкурс на літаратурныя творы ў сувязі з 20-годдзем дзейнасці БГКТ**. У ім могуць прыняць удзел усе, хто не з'яўляецца членам Саюза польскіх пісьменнікаў. Склад журы, рэгулямін і вартасць узнагародаў для пераможцаў будуць аб'яўлены ў „Ніве".

На заканчэнне семінара з нізкай сваіх новых вершаў выступіў Кастусь Бандарук. Удзельнікі семінара абмеркавалі іх і адобрылі. Вечарам жа адбылася ў клубе гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку аўтарская сустрэча члена Саюза польскіх пісьменнікаў, выкладчыка філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, нашага „белавежца" дра Янкі Чыквіна. (іс)




## НУ І БАР!

— Дзе ж бы тут перакусіць? — думаю сабе, ідучы тратуарам гайнаўскай вуліцы. Праўду кажучы, то найталковей было б у рэстаран зайсці, але там страшэнна многа часу страціш. Пакуль да цябе падыдуць, пакуль прынясуць, пакуль рахуначак выпішуць — то і гадзіны паўтары пройдзе. А за гэты час кіламетраў дзесяць пехатой прайсці можна. А! Што будзе! Паспрабую яшчэ раз шчасця ў бары „Экспрэс". Толькі б не забыцца, чаго я туды іду і замест катлета папяросаў не купіць, як тады, калі першы раз там быў. Ну, і трэба было трапіць! Якраз за крэслы біліся, якіх было тут намнога менш, чым галодных і сасмаглых. Ой, таўкліся! І то так, што не памятаю, як на вуліцу выскачыў. Можа, цяпер так не будзе. Усё ж такі гады чатыры прайшло з той пары і, напэўна, крэсел за гэты час дакупілі. Ды і людзі, пэўна, больш падружылі з культурай. А па-другое, то тады быў вечар, а цяпер поўдзень — усе працуюць. Што будзе — то будзе!

А вось і бар. Эгэ! Пакуль што, то тут нічога не змянілася. „Рэклама" як была, так і ёсць. На тратуары ля самага ўваходу, як і даўней, хістаюцца, хапаючыся рукамі паветра, дзеля ўтрымання раўнавагі тыя, якім зямля пачала ў другі бок кружыцца. Налізаліся ўжо, галубчыкі. Значыць, у бары час працы не адыгрывае ніякага значэння. Ну, але гэта не тэатр, а яны не акцёры-прафесіяналы, ды і я не глядзець сюды прыйшоў. Рука па прывычцы пацягнулася да клямкі, але тут я заўважыў, што дзверы зусім незачыненыя. Пераступіў парог і апынуўся ў сенцах. Памалу ступаючы, каб не пакаўзнуцца і не грукнуцца на мокрую і брудную падлогу, накіраваўся ў спыжывецкую залу. Спачатку не ведаў, дзе я апынуўся. Мітусня, шум — як у млыне. Дзе стаць — не ведаю. З якога боку не падыходзіць — усюды стаяць. Як нешта салодкае мухамі, так буфет аблеплены людзьмі. І ўсе піва купляюць. Куфлі па чатыры валакуць. Але ж не, адзін, бачу, нешта на талерцы нясе.

— Каб нешта з'есці, то трэба ў чарзе гэтай стаяць? — пытаю.

— Не, гэта за півам. За ядой няма ніякай чаргі, праціснуцца толькі трэба.

Праціскаюся. Удалося! Нават гарачае, бо пара ідзе. Толькі зноў праблема — дзе стаць, каб з'есці можна было. Пра столік няма што і думаць. Хаця б так дзе спакойнае месца знайсці. І разглядаюся, ходзячы з талеркай між людзьмі, якім да шчасця больш нічога не трэба. Ды бачу, нейкі дзядок, а можа ён яшчэ і не такі дзядок, можа гэта толькі сіні нос яму гадоў дабаўляе, з двума куфлямі, зацягнуўшы песню, ля акна на радыятары прымасціўся. Чаму ж мне туды не пайсці! Хаця пад бокі таўчы не будуць. І ўжо накіраваўся — ды запозна. Выйшла ўсё так нечакана, быццам бы маланка смальнула з яснага неба. Нейкі „начытаны" зачапіўшыся пінжаком за незусім яшчэ абламаную ад стала планку, так скалыхнуўся, што піва, не ўтрымаўшыся ў берагах шклянай пасудзіны, хлюпнула мне проста на паўмісак. Значыць, пабедаў і хутка, і добра. Вось гэта дык „Экспрэс". Сапраўды, хуценька адтуль выйдзеш. Толькі навошта там напісана „бар"? Ці не лепш было б замяніць на „піўную"? А можа, каб не перарабляць напісанага, зменшыць продаж піва і прадаваць яго як дадатак да ежы, а калі ўжо нехта хоча толькі піва, то хай прыходзіць са сваёй пасудзінай, нясе дадому і п'е колькі ўлезе. Выхад, здаецца, ёсць. (ша)

## Актыўны шчэп

У гайнаўскім белліцэі актыўна дзейнічае шчэп ГСПС. Налічвае ён 180 гарцэраў і дзеліцца на 8 дружын. Паміж шчэпам і педагагічным саветам школы ўстанавілася цеснае супрацоўніцтва. Апрача дружын, у школе працуюць гарцэрскія спецыялістычныя клубы: грамадска-палітычных ведаў, інфармацыі, тэатральны і маладых спартсменаў. У мінулым годзе нашы гарцэры ўзялі апеку над настаўнікамі-пенсіянерамі, наведалі дзяцей-сірат у бальніцы, а таксама арганізавалі XVI алімпіяду ведаў аб Польшчы і сучасным свеце.

У лістападзе 1974 г. тэатральны клуб выступіў з першай п'есай „Любоў праз стагоддзі". Прынята яна была ўсімі вельмі добра. Ад кастрычніка да снежня гарцэры рэалізавалі лозунг „Гоман белавежскіх ялін апавядае пра тысячагадовыя падзеі". У час зімовых канікул адбылося інструктарскае навучанне. Цяпер інструктарскія кадры складаюцца з 11 гарцэраў у ранзе арганізатара і 1 у ранзе праваднікa.

Шчэп прымаў актыўны ўдзел у тэхнічна-абаронных занятках і заваяваў перадавыя месцы ў ваяводскім турніры. Вясною гарцэры выканалі многа прац для школы і асяроддзя. У рамках IX алерту начальніка ЗГП, які праходзіў пад лозунгам „Напрамак — перамога", гарцэры правялі інтэрв'ю з заслужанымі людзьмі, выканалі „гарцэрскі алертавы чын", а таксама прымалі ўдзел у гарцэрскай гонцы перамогі. Нашы гарцэры вылучыліся пры зборы макулатуры і металалому. Вялікая заслуга ў гэтым каменданта шчэпу друга Анатоля Скепкі і яго намесніка друга Барбары Пецыхны.

За вялікі ўклад працы ва ўмацаванне гарцэрства ў нашай школе друг Барбара Пецыхна была ў пачатку новага навучальнага года 1975/76 назначана праваднікам. У новым гарцэрскім годзе камендантам шчэпу будзе друг А. Харкевіч, а яго намеснікам друг В. Дамброўскі. Барбара Пецыхна будзе рыхтавацца цяпер да матуры.

**Вада**



*Танец „обэрэк" у выкананні маладых белавежскіх танцораў.*

## З „Белавежай" у Дубічах і Чаромсе

30 лістапада, у апошнюю нядзелю мінулага месяца, вядомы мастацкі калектыў песні і танца „Белавежа" з Белавежы выступіў з канцэртамі ў дубіцкім і чаромхаўскім дамах культуры.

Праграма канцэртаў была багатая і разнастайная. У ёй былі сучасныя беларускія, савецкія і польскія песні.



*Белавежскі хор.*

Выконвалі іх мяшаны хор, жаночая група, мужчынская, дуэты і салісты. Асабліва прыгожа і задушэўна гучалі звонкія беларускія песні „Нарач", „Дубок", „Гродзенскі вальс", „Ходзіць хлопец па даліне", „Вечарком за рэчкаю", „За шумлівым борам", „Ой хацела мяне маці" і іншыя. Гэтымі песнямі харавы калектыў заваяваў сэрцы гледачоў. Немалая ў гэтым заслуга мастацкага кіраўніка Аляксандра Лукашука.

У перарыве паміж песнямі выступіў 12-асабовы танцавальны калектыў, якім кіруе вядомы беластоцкім гледачам танцор і харэограф Янка Крупа.

У рэпертуары ансамбля былі беларускія, польскія, украінскія і малдаўскія танцы. Кожны танец — гэта на сцэне маладосць, тэмперамент, і што гаварыць — прыгажосць. Дух займала бравура выканаўцаў. Усіх захаплялі таксама каляровыя ўборы, якія ярка зіхацелі на залітай ірдзістым святлом сцэне. Пасля кожнага выступлення маладых белавежскіх танцораў (сярэдні іх узрост — 20 год) лілася лавінай бура апладысментаў. З твараў людзей не знікала ўсмешка, радасць. Цешылася сэрца. Нягледзячы на тое, што ўваход быў платны, людзей былі поўныя залы. Гэта яшчэ больш падбадзёрвала белавежцаў. Прыдаліся ім і доўтія бравы і бісы. Словам, канцэрты „Белавежы" ў Дубічах Царкоўных і Чаромсе прайшлі з вялікім поспехам, удаліся на славу.

Тэкст і фота **Я. Пялушэпкага**



*Поўны зал гледачаў у Чаромсе.*

ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „НІВУ"!



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

((Працяг са стар. 1)




ліся тут беларусы з мазаўшанамі. Разам жылі яны, разам пры двары Хадкевічаў служылі, разам у далёкія ваенныя паходы хадзілі, ды разам і песні спявалі.

А песень у Ахрэмавічах браць не перабраць, і спяваюць іх тут старэнькія бабулькі і дваццацігадовыя маладзіцы ахвотна кожнаму, у каго заўважаць некрывадушнае замілаванне да гэтага чароўнага скарбу народнага мастацтва. Вось хоць бы і ў маім выпадку. За якую гадзіну часу сямідзесяцігадовая **Кацярына Баўтручук**, шасцідзесяцігадовая **Марыя Лубнеўская** і яе дваццаціпяцігадовая дачка **Часлава Катовіч** наспявалі мне на магнетафонную стужку дзевяць старадаўніх песень. Сярод іх ёсць працяжныя і сумныя, як сумнай была калісьці беспрасветная доля сялянкі, сенакосная, у якой касцы косяць і просяць: *„дай нам, Божа, погодоньку на нашую роботоньку, коб нам сіено покосіті і ў стодолы повозіті“*, і працяжныя жніўныя з тхненнем летняй спёкі і горка-салёнага смаку поту, дзе жніцы ўздыхаюць: *„наша пані домуе, нам вечэру готує; нам вечэра не міла — постоцянка ўтоміла“*, або авеяная дзявочай надзеяй і трывогай за сваю будучыню вясельная пра тое, як *„застучалі вороны коні на дворэ, зазвінелі золоты кубкі на столе“*, а дзяўчына *„упала своёй матулі ў ногі“* ды загаласіла: *„ — Ой, не дай, не дай, моя матулю, хоць рочок, нехай я зношу свой руцвяны веночок“*. І хоць у свядомасці ахрэмаўцаў даўным-даўно загінула памяць пра іх баярска-шляхецкае паходжанне, і яны нічым не вылучаюцца ў штодзённым побыце ад сялян з навакольных былых паншчынных вёсак, усё ж у песнях захавалася нейкае глухое водгулле тых адлеглых часоў. Гэта кідаецца ў вочы ў вясельнай, якую спявалі маладому, дзе *„шалён-малён по пудвор'ю коціўсе, молоды Янко на заручыны строіўсе“*, а калі ўжо ад'язджаў да свае *„мілоі“*, дык *„у правуй ручэньцы хусточку дзержыт — слёзонькі ўцераці, а ў левуй ручэньцы канчука дзержыт — коні́кі погоняці“*. Ці ж не красачны гэта вобраз засцянковага маладога баярына-шляхціча? Тое самае можна заўважыць і пра запісаную ў Ахрэмавічах польска-беларускую баладу пра маладога Яся, якому не дазволіла ўся сям'я жаніцца на беднай дзяўчыне. З гора хлопец едзе па жэмчуг-пэрлы за мора, а ў тым часе яго любая Касенька памірае з тугі па каханым. Але песня выносіць яму справядлівы прысуд:

„Nad Kasieńki głową ojciec, matka płacze, nad Jasieńkiem zdradziczeńkiem czarny woron gracze".

Так яно ў колішніх песнях.

Сёння ж у Ахрэмавічах адбываюцца тыя самыя працэсы, што і ў большасці нашых вёсак. Вёска паскорана старэе. Калі сёння ў ёй жыве толькі адна сям'я пенсіянераў, што здала зямлю дзяржаве, дык гады праз два-тры такіх сем'яў будзе пяць або і шэсць — адна трэць вёскі! Але ў той жа час набіраюць сілы і развіваюцца моцныя гаспадаркі, на якіх працуюць маладыя сяляне. Яны многа сродкаў укладваюць у новыя будынкі, машыны, апрацоўку скамасаванай два гады таму назад зямлі. І вытворчасць у іх з кожным годам павялічваецца. Для прыкладу, **Віктар Ляончук** абрабляе звыш 20 га, ён вядзе шматгаліннуго гаспадарку. У яго машыны, 10 штук быдла, многа свіней, добрыя ўраджаі і высокі збор сена. Ад 5 дойных кароў малако ён кантрактуе, прадае ў год 2-3 штукі ўбойнага быдла і каля 10 кормнікаў, дастаўляе шмат збожжа і бульбы. Але многія г.зв. сярэднія гаспадары — гэта **сялянерабочыя.** І кожную раніцу на аўтобусны паўстанак спяшаюцца **Андрэйчукі, Жукі, Катовічы, Ляончукі, Лубнеўскія, Пшымерскія, Раманчукі, Сатэцкія, Федарчукі, Якубікі, Якубоўскія;** дарослыя да працы ў Заблудаве або Беластоку, а моладзь — у школы. Што ж, і нашчадкі колішніх баяраў жывуць нашым сучасным звычайным працавітым рытмам.

**Мікалай Гайдук**




*Адлятаўся... Вятрак каля вёскі Шацілаўка.*

*Фота М. Гайдук.*

((Працяг са стар. 1)

## ТАМ, ДЗЕ РОДЗІЦЦА МАСЛА

не, усё на апошнім гузіку. Дзеля прыкладу возьмем тварог, якога тут некалькі гатункаў. План (на 9 месяцаў) прадугледжваў 40 тон, а зрабілі 48,4 тоны. Ці ж не шмат? А калі параўнаем з мінулым годам, то павялічылася яго на 158 працэнтаў. Вельмі добра.

Свае вырабы стараюцца высылаць на дзяржаўны рынак. Апрача таго, па просьбе жыхароў вялікую колькасць высылаюць у цэнтры скупкі. Трэба ж, каб і яны там паглядзелі, што за цуды родзяцца з іхняга малака. А ў час палявых работ малочнымі напіткамі забяспечваюць многія СКР-ы і працуючыя брыгады. Калі ўжо гутарка ідзе пра прадукты, то вялікая іх колькасць кожны дзень паяўляецца на паліцах і ў халадзільніках уласнай крамы ў Дуброве, якую пабудавалі ў 1974 г. і забяспечылі цудоўным халадзільным абсталяваннем.

Нельга не сказаць і пра працаўнікоў. Працуе тут 101 асоба. Больш, як вядома, жанчын. Усе працаўнікі падрыхтаваны да выконвання сваёй прафесіі, а 11 асоб — гэта выпускнікі Малочнага тэхнікума ў Беластоку. Умовы для працы добрыя. Цёплая вада, шафкі на вопратку, абеды — ну, лепш не трэба. А найважнейшай справай з'яўляецца тое, што хутка атрымоўваюць кватэры, на якія прадпрыемства кожны год дае пазыку патрабуючым. У такіх добрых умовах працуюць такія добрыя працаўнікі, як Казлоўская Ірэна, Люты Крыстына, Балдоўскі Юзэф, Чырскі Янка, Пігель Ядвіга, Макалевіч Амелія і Грыбіч Ядвіга. За плённую працу кіраўніцтва арганізуе для сваіх працаўнікоў даволі цікавыя экскурсіі, пазычае ў час водпуску розныя турыстычныя прылады, а раз у год, калі дзеці танцуюць ля навагодняй ёлкі, наладжвае цудоўны баль.

А што ж дае прадпрыемства членам паасобных цэнтраў скупкі малака? Многае! Апрача грашовай дапамогі школе, у якой вучацца іх дзеці (агульнаадукацыйны ліцэй), забяспечвае іх кормам для кароў, нагнятальнымі помпамі, аўтаматычнымі кармушкамі, электрычнымі даілкамі і парнікамі ды многім іншым, патрэбным у гаспадарцы.

Планы на будучыню? Каб у 1976 годзе мець 3.000 кантрактатараў. Верым, што столькі будзе!

**М. Шаховіч**

Фота **Я. Цялушэцкага**



*Ірэна Казлоўская — адна з перадавых работніц.*

## Весткі з Беластока

## „БЕЛЬ-ПО"

Гэтым скарачэннем памечана пасцельная бялізна, якая прадукуецца ў Беластоку, у спулдзельні працы імя Навоткі. Скарачэнне гэта паходзіць ад слоў „бялізна" і „пасцель".

Спулдзельня працы „БЕЛЬ-ПО" сёлета адзначала свой сярэбраны юбілей. Распачынала яна сваю дзейнасць у вельмі цяжкіх умовах. Не было адпаведнага памяшкання, не было адпаведных швейных машын.

Ішлі гады. Паспяхова развіваліся ўсе галіны народнай гаспадаркі. Спулдзельня працы імя Навоткі разбудоўвалася, аднаўляла свой машынны парк, удасканальвала сваю прадукцыю, мадэрнізавала і будавала неабходныя памяшканні, у якіх маглі б вырабляцца высакаякасныя тавары. У бягучай пяцігодцы зрабіла яна мілёвы крок наперад у сваім развіцці. У 1972 годзе пасцельная бялізна са знакам „БЕЛЬ-ПО" вядомая была ўжо ва ўсіх раёнах Польшчы. Ахвотна заказваў яе Цэнтральны дом таваровы ў Варшаве, усе ВСС-ы і ПЗГС-ы, а таксама іншыя гандлёвыя адзінкі. У 1973 годзе масава пасыпаліся спулдзельні дыпломы, падзякі, узнагароды за якасць і г.д. Спулдзельня заваёўвае вядучыя месцы ў краіне ў шматлікіх конкурсах. У 1974 годзе займае першае месца па якасці і Пераходны сцяг у ведамстве ЦЗСП (Цэнтральнае ўпраўленне спулдзельчасці працы).

Калектыў спулдзельні складаецца ў асноўным з жанчын, сярод якіх 75% моладзі. Многія работніцы вельмі высока перавыконваюць свае планы. Вось, напрыклад: Яўгенія Даковіч выконвае 202% сваёй нормы, Генуэфа Ручко — 193%, а Ірэна Улановіч, Кацярына Харужа, Ірэна Корсак і Эльжбета Сулеўская — выконваюць сваю норму ў 178%.

Другім істотным фактам, які спрыяе дасягненням спулдзельні, з'яўляецца аднаўленне машыннага парка. І ў сувязі з гэтым яшчэ тры прыклады. Да нядаўна працавалі ў спулдзельні найбольш на нашых хуткабежных швейных машынах „Лучніках", хуткасць шыцця якіх акрэслівалася 2800 ударамі ў мінуту. Але тэхніка ў гэтай галіне зрабіла значны крок наперад. Лучнікі выменьваюць на машыны з ГДР „Таксімы", якія робяць 5600 удараў у мінуту. Значна павялічваюць тут прадукцыйнасць пры дапамозе спецыялістычных машын „Юкі" японскай прадукцыі і італьянскіх машын „Рэццэ". На працягу года спулдзельня выпускае вырабы з 24 млн. метраў тканін, што складае 70% краёвай прадукцыі. Варта яшчэ падкрэсліць, што шыецца тут 80 мадэляў пасцельнай бялізны.

У бягучым годзе, годзе з'езду ПАРП, спулдзельня дала шмат дадатковай прадукцыі. Пачаткова было прынята абавязацельства на 5 млн. зл. Калі яно было выканана, прынята новае — выпрадукаваць 17 тыс. камплектаў пасцельнай бялізны на суму 4,5 млн. зл. Апрача таго, у рамках з'ездаўскага чыну і ашчаднасці сыравіны зроблена 100 камплектаў пасцельнай бялізны для гайнаўскай бальніцы.

План прадукцыі спулдзельні на бягучы год акрэсліваўся сумай 605 млн. зл. Выкананы на 628 млн. зл.

Спулдзельня працы імя Навоткі крочыць наперад з духам нашага часу, з духам патрэб нашага грамадства.

**Міхась Хмялеўскі**




Было гэта даўным-даўно, як кажуць: за цара Гароха, калі зямлі была кроха, а людзі зусім на свеце не вадзіліся. У лясах непраходных ды пушчах дрымучых адно самыя звяры жылі і сваімі правамі ды звычаямі кіраваліся. І было ж іх тады плойма-плоймаю. Але вось аднойчы напала на звяроў нейкая хвароба. Мяла іх яна, бы мятлою, касіла, бы касою. І нават тыя, што засталіся пры жыцці, таксама ледзь хадзілі, нідзе ратунку не знаходзячы.

Вось і надумаліся яны сабраць вялікі збор, каб супольна вырашыць, як ад смерці ратавацца. Думалі-гадалі, каго старшынёю гэтага сходу абраць. Адны казалі зубра на гэтую пасаду назначыць, другія — мядзведзя, трэція ж — лісіцу. Доўга абмяркоўвалі кожнага, талкавалі ды спрачаліся, але ў канцы прыхільнікі лісіцы ўсё ж перамаглі.

Села лісіца на высокім крэсле пад разгалістым дубам, пагладзіла свой пушысты жывоцік, вільнула разы два хвастом, усміхнулася ды кажа:

— Хоць я і аднеквалася, але раз ужо выбралі мяне, дык цяпер слухайце і рабіце, як загадаю. Агульны збор звяроў назначаю праз тыдзень, а да таго часу ўсе зараз жа тут перад гэтым дубам, вялікую пляцоўку расчысціце. Сход жа мнагалюдны будзе, і ўсім месца знайсціся павінна.

Узяліся ўсе звяры лісіцын загад выконваць. Зубры рагамі дрэвы з карэннямі вывальвалі, бабры зубамі бярвенні рэзалі, дзікі лычамі зямлю раўнялі — усе працавалі да сёмага поту. Прайшло колькі часу, і на месцы лясной крэкаці прасцерлася пляцоўка гладкая, бы патэльня.

— А цяпер вогнішча вялікае раскладзіце, — мовіла лісіца, — каб і ноччу наш сход мог адбывацца.

Як загадала, так і зрабілі. Запалаў касцёр, полымя вышэй дуба зашугала.

У назначаны дзень сабраліся на пляцоўцы ўсе звяры, паселі, чакаюць.

Паднялася лісіца з крэсла, на стол мяккімі лапкамі абаперлася ды кажа:

— Браты мае любыя і сёстры дарагія, грэшныя мы ўсе, вось таму і ліхая хвароба нас морыць. Багоў мы прагнявілі, яны і смерць на нас ссылаюць. Трэба нам да ўсіх сваіх грахоў прызнацца, а багоў абласкавіць ды задобрыць багатаю ахвяраю. У ахвяру аддадзім багам таго з нас, хто найбольш грэшны.

Напаў на ўсіх звяроў страх і давай яны самі апраўдвацца, а віну на іншых звальваць.

Першай азвалася вавёрка:

— Я дык за ўсё сваё жыццё ніякага злога ўчынку не зрабіла, збіраю адно нікому непатрэбныя арэшкі ды жыўлюся імі. Ці ж гэта грэх? Вось авечкі, дык траву з карэннем выдзіраюць, яны, напэўна, больш грэшныя.

Авечкі ж на тое:

— Мы траўку толькі пашчыпваем і то адно тую, што іншыя нагамі топчуць. Ніякай шкоды ніколі нікому не зрабілі. Ці ж можам мы быць грэшнымі? Вось ваўкі жыўцом з нас скуру дзяруць, яны — грэшнікі!

Ваўкі таксама нешта ў сваё апраўданне знайшлі. І так апраўдаліся ўсе: мышы, барсукі, алені, вужы, зубры, мядзведзі і іншыя звяры.

Урэшце і на казла прыйшла чарга.

— І я таксама, здаецца, ні ў чым не павінны: лісточкамі адно пасуся, а яны, як вядома, і так на зямлю ападаюць і марна гінуць. Нікому, здаецца, дрэннага не раблю і дарогі не замінаю...

Бачыць лісіца, што справа дрэнь — няма вінаватых ды грэшных. Чаго добрага за падушаныя куры ды гусі ёй прыдзецца расплочвацца ды быць ахвяраю. Вось і накінулася яна на казла:

— Гэта толькі табе так здаецца, што ты не грэшыш. А рагамі ты сваімі вунь як пораш ды папорваеш, а капытамі вострымі ўсё топчаш ды затоптваеш, а хвастом куртатым усё круціш ды пакручваеш! Грахоў у цябе браць-не перабраць...

Усе, за сваю скуру баючыся, хуценька прытакнулі лісіцы, схапілі беднага казла, звязалі, да ног старшыні кінулі.

А тая і кажа:

— Найлепш казла спаліць. Ён увесь у дым абернецца, а такая ахвяра да нашых багоў трапіць. Яны ёй абрадуюцца і хваробу ад нас адхіляць.

Прасіўся-маліўся казёл, што ён нідзе ніколі нікому нічога, і ў яго жыцці не было такога, каб ён дзе каму якое дрэнна зрабіў. Але ніхто і слухаць не хацеў, схапілі за ногі ды рогі і грамадою ў полымя ўкінулі.

Не памагла гэтая ахвяра звярам, бо і па сённяшні дзень яны мруць і хваробы розныя на іх нападаюць. Затое памяць пра ахвярнага казла і да нашых часоў захавалася.

(Паводле казкі, пачутай у вёсцы Зубава)

**М. Гайдук**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




## Дарагія сябры!

*Jestem od roku stałym czytelnikiem „Hiвы". Z niecierpliwością oczekuję nowych numerów tygodnika bo z góry wiem, że znajdę w nim sporo ciekawych materiałów. Nazywam się Roman Parylak. Niebawem skończę 25 lat. Jestem obecnie studentem III roku wydziału polonistyki Wileńskiego Instytutu Pedagogicznego. Za dwa lata zdobędę zawód nauczyciela-polonisty oraz nauczyciela geografii. Będę pracował w jednej ze szkół polskich na terenie Litwy. Języka polskiego (pisania i poprawnego mówienia) uczę się dopiero od trzech lat. Dlatego przepraszam za ewentualne błędy w pisaniu. Z „Hiвaй" zapoznałem się przypadkowo. Wiosną pilotowałem grupę turystów polskich i jedna z pań okazała się Białorusinką. Lubię i cenię literaturę białoruską, dlatego często rozmawialiśmy ze sobą na ten temat. Dzięki uprzejmości tej Pani otrzymuję „Hiвy". Z przyjemnością czytam ten tygodnik. Szczególne wrażenie zrobili na mnie autorzy grupy „Белавежа". Trudności z czytaniem nie mam żadnych, chociaż nigdy nie uczyłem się języka białoruskiego. Cieszę się, że śpiewny język białoruski jest tak troskliwie pielęgnowany przez Białorusinów zamieszkałych w Polsce. W bibliotece domowej mam sporo książek pisarzy białoruskich i moja biblioteka ciągle się wzbogaca o nowe pozycje. Koledzy z mojego wydziału często pożyczają „Hiвy", żeby przeczytać ostatnią stronę t.j. „Hiўкy" i przepisać zamieszczoną piosenkę. Dziękuję jeszcze raz za ciekawą gazetę.*

*Mam do redakcji prośbę. Chciałbym nawiązać korespondencję z chłopakiem w moim wieku z pochodzenia Białorusinem. Moje zainteresowania to filologia, literatura, malarstwo. Może ktoś zechce zaprenumerować mi „Hiвy", „Беларускі каляндар" a ja w zamian, mogę wysłać książki lub coś innego. Chciałbym bardzo utrzymywać stały kontakt z waszym tygodnikiem.*

*Z góry serdecznie dziękuję.*

**Z uszanowaniem Roman Parylak**

**Mój adres:**

**Litewska SRR**
**Wilnius-34,**
**iki pareikalavimo Roman Parylak**

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове, або якія датычаць беларускай праблематыкі:

З народнага слоўніка, 1975, стар. 352, цана 7 зл. 30 гр.

У гэты зборнік пад рэдакцыяй А. А. Крывіцкага і Ю. Ф. Мацкевіч увайшло шэраг артыкулаў, прысвечаных народнаму слоўніцтву, адначасова кожны з іх змяшчае слоўнік народнай лексікі акрэсленай мясцовасці. Між іншым, Я. М. Рамановіч публікуе ў ім матэрыял „Да слоўніка Гродзеншчыны", Н. Д. Корань „Да палескага дыялектнага слоўніка", Ю. Ф. Мацкевіч „Лексіка пчалярства" і г.д.

**Зверуго Я. Г.,** Древний Волковыск, 1975, стар. 142, цана 10 зл. 40 гр.

Манаграфія аднаго з найболей старажытных і найлепш даследаваных гарадоў Беларусі. Аўтар разглядае ў ёй палажэнне, рамяство і гандаль, сельскую гаспадарку і промыслы, абароннасць і культуру Валкавыска X—XIV ст.ст. Для нашага чытача гэта надзвычай каштоўнае даследаванне, бо Валкавыск знаходзіцца ў непасрэдным суседстве з Беласточчынай, і яго гісторыя дастаўляе значны параўнальны матэрыял, які адлюстроўвае тую эпоху і ў старажытных гарадах Беласточчыны.




**Штыхов Г. В.** Древний Полоцк, 1975, стар. 134, цана 10 зл. 10 гр.

Манаграфія слаўнага сваёй багатай мінуўшчынай горада Полацка. Аўтар абмяжоўвае сваё даследаванне IX-XIII ст. ст. і засяроджвае ўвагу на мінулым горада паводле пісьмовых крыніц, на выніках раскопак, гаспадарцы і побыце, а таксама помніках яго гандлёвых і культурных сувязей. Прыгадваем, што гэта перыяд знаходжання ў Полацку легендарнага князя Рогвалада і славутай Еўфрасінні Полацкай.

**Гайдук Л., Гайдук М.,** Беларуская мова. Граматыка для V—VIII класаў, 1975, стар. 264, цана 15 зл.

Гэты падручнік, выдадзены ў Народнай Польшчы, прадназначан для вучняў V—VIII класаў пачатковых школ, у якіх вывучаецца беларуская мова. Ён ахоплівае ўсе асноўныя раздзелы ведаў пра родную мову (кароткія гістарычныя звесткі, фанетыку, слоўнікавы склад, пабудову слоў, часціны мовы і сінтаксіс), пры гэтым падаецца і польская тэрміналогія. Падручнік прыгодны і для вучняў нашых беларускіх агульнаадукацыйных ліцэяў, а таксама для ўсіх, хто хоча пазнаць беларускую мову.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:
„Dom Książki", Białystok, 15-089, ul. Kilińskiego 10.

(іс)

# ФАЛЬКЛОР

### СЯМЕЙНАЯ




*Ой, пойду я по-пуд лугом,*
*ой, пойду я по-пуд лугом,*
*дзе мой мілы орэ плугом.*
*Дзе мой мілы орэ плугом.*
*Занесу я ему есці,*
*занесу я ему есці,*
*чы не скажэ мне прысесці.*
*Чы не скажэ мне прысесці.*
*Занесу я ему піці,*
*занесу я ему піці,*
*чы не будзе говорыці.*
*Чы не будзе говорыці.*
*Он наеўсе і напіўсе,*
*он наеўсе і напіўсе,*
*сеў на плузе, засмуціўсе.*
*Сеў на плузе, засмуціўсе.*

*— Чом, мой міленькі, не орэш?*
*чом, мой міленькі, не орэш,*
*чом зо мною не говорыш?*
*Чом зо мною не говорыш?*
*— А я сіжу той думаю,*
*а я сіжу той думаю,*
*што ліхую жонку маю.*
*Што ліхую жонку маю.*
*— Трэбо было не сватаці,*
*трэбо было не сватаці,*
*было ў людзей запытаці,*
*Было ў людзей запытаці.*
*Нашы людзі — не татары,*
*нашы людзі — не татары,*
*усю бы праўду расказалі,*
*Усю бы праўду расказалі.*

Ад Веры Паповай, 1932 г. нараджэння, г. Беласток, якая навучылася гэтай песні ад сваіх матулі, бабулі, і цёткі, што жылі ў вёсцы Гнецюкі каля Заблудава, запісаў 20 кастрычніка 1975 г. М. Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі — Л. Панько.

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### ГАЛЕНА НАЗАРКА

Галена Назарка ў раннія гады марыла быць краўчыхай. Шыць вопратку вучылася ў перадваенныя 1935-36 гады ў вядомай мясцовай краўчыхі Зофіі Ломнік. Пасля пачала першую прафесіянальную працу на тэкстыльнай фабрыцы ў Міхалове. Калі арганізаваўся швейны кааператыў у 1950 годзе, Галена Назарка ўзначаліла яго. Краўчыхі працавалі тут у невялічкім прыватным будынку.

Галена Назарка ўспамінае:

— Тканіны краўчыхі насілі на плячах. Шылі мы рознае — паліто, піжамы, дзіцячую бялізну, коўдры. Добра памятаю тыя гады, бо тады я атрымала дыплом кравецкага майстра.

Цяпер Галена Назарка кіруе 100-асабовым рабочым калектывам, які працуе ў новым прасторным цаху. Відна тут, цёпла і ўтульна. Усе краўчыхі вельмі любяць сваю працу, усе тут добра зарабляюць.

На швейным прадпрыемстве ўсюды відаць рука жанчыны-загадчыка. Чысціня, многа кветак. Кветкі ўсюды: у прадукцыйным цаху, у святліцы, пакойчыках, у якіх знаходзіцца бюро, на калідорах. Летам поўна іх на кветніках навокал будынка. Прыемна тут працаваць.

Галена Назарка аддае сваёй працы шмат сіл, часу, душы. Многае прыдбала яна для прадпрыемства за 25 год сваёй прыкладнай работы. Клапоціцца яна пра ўвесь рабочы калектыў і яго паасобных членаў. Міхалоўская швейная іменна таму перавыконвае свае прадукцыйныя планы. Таму займае лепшыя месцы ў спаборніцтве за зніжэнне сабекошту і павелічэнне выпуску прадукцыі. Іменна таму даручана яму экспартная прадукцыя, з рэалізацыяй якой паспяхова спраўляецца.

У 1960 годзе Галена Назарка атрымала Сярэбраны Крыж Заслугі, мае таксама розныя значкі і шматлікія дыпломныя ўзнагароды.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



## Гайнаўскі мільянер

Гайнаўскі гмінны кааператыў з'яўляецца мільянерам. Ён выпрацоўвае вялікі даход на скупцы плёнаў зямлі і продажы прамысловых тавараў. Мае разбудаваную сетку магазінаў і складаў і лічыцца адным з лепшых гэсаў у нашым ваяводстве.

Бывае, аднак, і так, што і ў добрым кааператыве ўзнікаюць недахопы. Такі недахоп паўстаў у гайнаўскім ГС-е пры скупцы плёнаў зямлі.

У сераду ў Гайнаўцы тарговы дзень. У збожжавым магазіне поўна народу, кожны нешта хоча здаць.

Прынеслі жанчыны здаваць фасолю. Магазінер Чувіліс не хоча прыняць тычкавую фасолю „Пекны Ясь". Не памагаюць просьбы жанчын — фасолі не прыняў.

І ўсіх, хто прыносіць гэту фасолю, адпраўляюць, як на смех, у магазін Агародна-пчалярскага кааператыва на вуліцу Тарговую — 4 км дарогі. Гэтакую практыку вядзе ГС ужо некалькі год. Многа ўсяго ён скупляе і з'яўляецца мільянерам і без тых некалькіх тон фасолі „Пекны Ясь". Але, каб чуў магазінер і праўленне, як іх клянуць людзі, ідучы праз Гайнаўку з фасоляй, тады напэўна пачалі б купляць і „Яся".

**Раса**




...на Беласточчыне ёсць 626 626 гектараў зямельных угоддзяў, з якіх плошчу ў 585 893 га займае 92 919 індывідуальных гаспадарак.

...сельскагаспадарчыя гурткі ў Беластоцкім ваяводстве карыстаюцца 2 655 трактарамі і 144 збожжавымі камбайнамі.

(ця)




*Вечарам каля вёскі Каралёва Стойла ішоў гуранец. Падышоўшы да балота „Коматаўшчына", чуе, ідуць за ім жанчыны. Гуранец схаваўся за карчы, закінуў сарочку на голаў і глядзіць цераз распорку. Калі жанчыны параўналіся з карчамі, гуранец чхнуў (каб звярнуць на сябе ўвагу). Калі цёткі глянулі на карчы, дык дай бог ногі. „Дух" гнаў іх два кіламетры. З той пары стала тут страшыць. Але гэта было даўно. Цяпер, кажуць, сіла Духа Коматаўшчыны значна аслабла.* Т. К.

## Згодна з логікай



Не паложыш кнігі на паліцу, калі паліцы няма — старая праўда. Так яно і тут ёсць, гэта значыць у Іванюка Антона з Новага Беразова. Задумаў ён заняцца жывёлагадоўляй. Думка цікавая, але патрабуе падмацоўкі.

— Пакуль накупляеш цялят, то заўсёды трэба падумаць ці ёсць для іх памяшканне, ці часам не прыкрыта яно голым небам, — гаворыць.

Дык распачаў ён пабудову вялікага, аж на 30 галоў кароўніка. Будзе тут усё: і вада, і парнік, і памяшканне на корм, не гаворачы ўжо аб механізацыі. Як будаваць, дык будаваць так, каб потым было лягчэй.

А пакуль што цвёрда гаспадарыць ён на сваіх 12 гектарах, што з'яўляюцца крыніцай, з якой выплывае жывёлагадоўчы шлях. Многа сее, многа кантрактуе, найбольш рапсу ды пшаніцы, якія, паводле яго, даюць вялікую матэрыяльную карысць.

(ша)

Фота **Я. Цялушэцкага**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## Сардэчныя тайны

Дарагое „Сэрцайка“, зрабіла я памылку ў жыцці, хацела б яе выправіць, але не ведаю як. Выйшла я замуж вельмі маладая, не мела яшчэ сямнаццаці год. Кахаліся. Зацяжарыла. Была вучаніцай. Пакінула школу і выйшла замуж. Муж быў добры. Памагаў мне ва ўсім: і зварыць, і прыбраць, і дзіцём займаўся. Нагаварыў, каб ішла вучыцца ў вячэрнюю школу, каб сярэднюю адукацыю здабыла. Так я і зрабіла. Дзіцё выхоўвала мама. Але спадабаўся мне хлопец, з якім я ў адным класе вучылася. Я закахалася, муж мне стаў абыякавы, нават да дзіцяці ўжо так не цягнула. Урэшце, было гэта пад канец школьнага года, у апошнім класе, мой хлапец сказаў, што ён бы са мной ажаніўся, каб толькі я ўзяла развод. Я, доўга не думаючы, заявіла мужу, што не хачу з ім жыць і падаю на развод. Муж адгаварваў, прасіў, каб апамяталася. Я не паслухала. Якая ж шчаслівая была я, калі далі нам развод. Але хлопец мой штораз радзей пачаў мяне наведваць, аб шлюбе ўжо не ўспамінаў, урэшце я даведалася, што ходзіць з іншай дзяўчынай. Мы моцна пасварыліся, і больш ужо ён да мяне не прыйшоў. Колькі я перажыла! Маці пасля разводу адраклася ад мяне. Дзіцё гадуе, муж туды прыходзіць, а мяне яна і знаць не хоча. Цяпер толькі я зразумела, што нарабіла. Асталася адна. Хацела б вярнуць усё назад. Але як, з чаго пачаць?

Няшчасная Геня

Геня! Сама вінавата. Замужняй жанчыне не штука спадабацца іншаму, горш, калі стане разводкай. Вярнуць цяпер усё назад — справа нялёгкая. Але паспрабуй. Пайдзі да маці, прасі прабачэння. Маці табе не вораг, дык папрасі, каб дапамагла сабраць сям'ю ў адно цэлае. Можа нейк удасца, чаго і я табе шчыра жадаю.

„Сэрцайка“

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астрон! Што значыць, калі сніцца снег? Мне ўчора снілася, што ехаў я самаходам па шырокай снегавой дарозе. Дарога была прамая і чыстая, снег быў уезджаны, паабапал дарогі высока ляжаў пушысты снег, які аж іскрыўся на сонцы. Цудоўная пагода. Усюды снег, снег, снег!...

Е. Ч.

Вельмі добры сон. Пагода, снег, шырокая, прамая дарога! Чакае вас нейкі прыбытак і дасканалае здароўе (снег), светлае і радаснае жыццё (сонца), шырокая і прамая дарога прадказвае таксама поспех і славу.

Астрон



SUZI QUATRO

Заказвалі: Эва Маркоўская, Данка Мразоўская, Бэата Врублеўская, Бажэна Бароўская, Малгажата Заянчкоўская, Анджэй Банькоўскі, Ян Врублеўскі з Бельска, Галена Гаінская, Галіна Капчэская са Страблі.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: А. П. прадаў І. М. 2 га зямлі. Умовы яны спісалі самі, з тым што дагаварыліся, што на працягу года заключаць натарыяльную ўмову. І. М. заплаціў 8 000 зл. задатку, а А. П. перадаў яму ў карыстанне купленую зямлю. І. М. пасеяў збожжа, а 0,20 га адвёў пад плантацыю трускалак. Аднак увосень узніклі паміж імі непаразуменні. А. П. звярнуў І. М. задатак і адабраў зямлю, патрабуючы заплаты за карыстанне з зямлі. І. М. адмовіўся ад заплаты і з свайго боку патрабаваў заплаты за трускалкі, з якіх ён не скарыстаўся. Як па закону павінны яны разлічыцца?

АДКАЗ: І. М. карыстаўся з зямлі з добрым намерам. Ён быў перакананы, што дойдзе да заключэння натарыяльнай умовы і зямля будзе яго. Таму ён не абавязаны да заплаты за карыстанне з зямлі і стаў уласнікам збожжа, якое ён з поля сабраў. Іншая была б сітуацыя, каб перад зборам збожжа А. П. падаў заяву ў суд, патрабуючы звароту зямлі. Ад моманту атрымання павесткі ў суд І. М. быў бы карыстальнікам са злым намерам і абавязаны быў бы аддаць ураджай на адлічэнне сваіх выдаткаў за пасеў і збор збожжа. Што датычыцца трускалак, то А. П. павінен звярнуць І. М. кошты залажэння плантацыі.

## Мала, але цікава

### НЕ ЦВЯРОЗЫ, НЕ П'ЯНЫ

У апошні час паліцэйскія рэгуліроўшчыкі ўсё часцей пачалі затрымліваць на вуліцах заходнегерманскіх гарадоў вадзіцеляў машын, паводзіны якіх за рулём яўна сведчылі аб стане лёгкага ап'янення: запаволеная рэакцыя, няўважлівасць. Якое ж было здзіўленне ахоўнікаў парадку, калі аналіз крыві парушальнікаў у большасці выпадкаў пацвярджаў іх клятвенныя запэўніванні ў тым, што яны ў гэты дзень спіртнога ў рот не бралі. Кафедра судовай медыцыны Дзюсельдорфскага універсітэта, правёўшы адпаведныя даследаванні, нядаўна дапамагла вырашыць загадку. Аказалася, што людзі сярэдняга ўзросту, якія кожны вечар прымаюць „традыцыйную чарку“ не больш 40-50 грамаў моцных напіткаў, — наступнай раніцай нярэдка выяўляюць за рулём прыкметы ап'янення, больш правільна, устойлівага расстройства цэнтральнай нервовай сістэмы, якое ўзнікае пад рэгулярным уздзеяннем невялікіх доз алкаголю.

## Куток практычных ведаў




### ЯК БАРАНІЦЦА ПЕРАД МАРШЧЫНАМІ

Дзяўчаты, што так інтэнсіўна малюецеся! Ці думалі вы калі, што будзе з вашым тварам год праз 15-20? Знаю, знаю, што вы скажаце зараз: а што мне да таго, што будзе праз 20 год, галоўнае, каб я цяпер была прыгожая, а праз 20 год і так на мяне ніхто глянуць не захоча...

І як жа ж вы памыляецеся! З пазіцыі дарослай вашай сяброўкі магу смела сказаць: жанчына хоча падабацца заўсёды.

Дык раю вам ад усяго сэрца: не псуйце сваёй свежасці і непадкупнай дзявочай прыгажосці ніякімі пудрамі і памадкамі. На ўсё гэта ёсць яшчэ час. А вось, глядзіш часамі на 18-гадовую дзяўчыну і замест мілага тварыка (якім ён яшчэ павінен быць) бачыш дзіка вытарашчаныя, чорным колерам выпэцканыя вочы жанчын-вампіраў з перадваеннага нямога фільма.

Калі ўжо абавязкова хочаце ўпрыгожыць сябе крыху, дык малюйцеся вельмі далікатна, каб, як кажуць, памада „не капала“ з вас, а выглядала спакойна і натуральна. Вельмі старанна трэба змываць макіяж. Можна рабіць гэта спецыяльнымі платкамі, або ўзяўшы на ватку крыху касметычнага малачка. Калі хто хоча мыць твар мылам, дык трэба мець для гэтага надзвычай мяккую губку. Адным словам, сачыць, каб не расцягваць занадта скуру. Пасля варта (да 30 гадоў — толькі каля вачэй) асцярожна ўцерці ў скуру крыху крэму (Annona, Vit, Sybilla).

Ад часу да часу варта зрабіць з крэму масачку. На вочы трэба тады палажыць кампрэсы з не надта моцнай чайнай эсенцыі.

Сяброўка



ВАСІЛЬ БЫКАЎ

## ЗДРАДА

І ён зноў заржаў — прыцішана, выскаляючы вялікія пярэднія зубы з дзяснамі. Цімошкін уважліва і трохі збянтэжана паглядзеў на яго — сапраўды, хто яго ведае, дзе ў яго была праўда, у гэтага чалавека. Ён мог, яе гэтую праўду, падаць так, што яна выглядала як хлусня, і, наадварот, хлусня ў яго магла быць праўдападобней за праўду. Хлапец ужо ведаў гэтую здольнасць свайго земляка і толькі ўздыхнуў.

І раптам ён змоўк, прыцішыў крок — наперадзе вал абрываўся, і з-за яго паказвалася загарадзь, нейкія будынкі, дрэвы. Хлопцы пáціху выходзілі з-за вала, па той яго бок паказаліся і яшчэ будынкі, гэта, пэўна, была ўскраіна вёскі або гарадка. Усё навокал ціха драмала ў ночы, толькі недзе далёка, прабуксоўваючы, тужылася-гыркатала машына.

Блішчынскі прыпыніўся, прыслухаўся, — ягоная хмельная самаўпэўненасць ураз змянілася насцярожаным клопатам.

— Пайшлі ў абход, — ціха сказаў Цімошкін. — Не ісці ж па вуліцы.

Сержант маўкліва згадзіўся, і яны, абыходзячы па заснежаных градах ускраінныя домікі, падаліся ў абход паселішча. У адным двары раптам усхапіўся сабака, кінуўся на плот, добра, што плот быў суцэльны і высокі. Блішчынскі скалануўся, падхапіў аўтамат, і ягоныя пальцы дрыготка схапіліся за рукаятку.

Яны яшчэ прайшлі крыху, і раптам абодва ўраз сталі, падаліся назад і прыціснуліся да сцяны нейкага ўскраіннага хлеўчука. Наперадзе, зусім блізка, у вербных прысадах была дарога, і на ёй чуліся галасы. У сутонні снежнае ночы там відаць былі сілуэты аўтамабіляў ці, можа, транспарцёраў, на момант блíснула з фары плямка святла, нешта лязгнула, затым плямка патухла.

Хлопцы замерлі і ўслухаліся — самае найпершае пытанне было — хто: свае ці немцы? Гамонка, што сям-там чулася на дарозе, была дужа ціхая, яе нельга было разабраць, але Блішчынскі нейкім адным яму ведамым чынам вызначыў:

— Немцы! Што ж рабіць?

— Трэба ісці. Што ж яшчэ рабіць? — сказаў Цімошкін.

— У абход?

Не, у абход было нельга. Убачыўшы іх у снежным полі, немцы, вядома, западозрылі б нядобрае, крыкнулі б, тут бы яны і папаліся. Лепей было прабірацца паўз дамы бліжэй да дарогі і затым — цераз самую дарогу.

Блішчынскі зразумеў гэта, і яны, прыціскаючыся да платоў і будынкаў, падышлі зусім блізка. Апошні ля дарогі быў ладны з верандаю домік, за драцяной сеткай ля яго тоўпіўся заснежаны калючы хмызняк. Яны прыціснуліся да тэтае сеткі і ўглядаліся ў дарогу.

Цяпер ужо добра відаць было, што на ёй стаяла калона машын. Яны былі дужа вялікія ці мо так здавалася ў прыцемках, людзей там не бачна было, толькі аднойчы бразнулі дзверцы кабіны і на дарозе з'явілася постаць. Паціху варушачыся ў змроку, яна падышла да дрэва на ўзбочыне. Немец, нібы ўглядаючыся ў іх бок, пастаяў, затым захінуў полы шыняля і вярнуўся да сваёй машыны.

Яны ўсё сядзелі пад агароджай, Блішчынскі, пэўна, баяўся, гэта адчувалася па яго насцярожанай ссутуленай постаці, па злосным шэпце на ўсякі неасцярожны землякоў рух. Хоць і Цімошкіну было нявесела, але ён ведаў, што баяцца і не ўмець схаваць гэтага — па меншай меры агідна для франтавіка.

— Чортава каламажка! — злаваўся Блішчынскі. — Што ж рабіць?

У прыцемках зблізку відаць было, як ён хмурыў касцісты лоб і сюды-туды паводзіў на фоне снежнае шэрані сваім выразным насатым профілем. Ён шукаў выйсця, намагаўся прыдумаць, як бы выкарабкацца з такога небяспечнага становішча. Цімошкін асабліва не намагаўся што выдумваць, бо ведаў, што нічога, апроч таго, каб перайсці дарогу, яны не надумаюць. Ад таго, як удасца ім гэта, будзе залежаць усё іншае.

— Ну, што? Трэба пераходзіць, — сказаў Цімошкін, чакаючы згоды таварыша. Але Блішчынскі, пэўна, усё не мог пагадзіцца на тое і маўчаў, узіраючыся ў ноч.

— Ну ладна. Толькі вось што, — не дужа ўпэўнена пачаў ён. — Хай хто-небудзь спачатку адзін, як бы ў разведку. А пасля другі. Каб не абоім адразу. Разумееш? Ну, ідзі ты першы.

У Цімошкіна ад тых яго слоў ажно скаланулася нутро — ён зноў адчуў побач знаёмага Блішчынскага, які хітраваў, камбінаваў, каб самому што выгадаць.

— Чаго гэта адзін? Ты што мяне выпраўляеш?! А сам?

— А-а, спалохаўся? — зашаптаў Блішчынскі. — Ну не ідзі, раз баішся. Падумаеш. Я пайду. Але ж у мяне сумка, дакументы, разумееш? Мне нельга.

Гэта было ўжо занадта. У яго ўжо з'явіліся прычыны і повад, які даваў яму права застацца ў баку ад самага цяжкага. Так ён рабіў некалі яшчэ на вясковым выгане, калі яны хлапчукамі пасвілі гусей. Гусі раз-пораз ішлі ў шкоду, дзеці разам гулялі ў цурку і па чарзе бегалі адварочваць статак. Але калі надыходзіла чарга Блішчынскага, ён заўжды аднекваўся: у яго то балела нага, то круціла ў жываце, то



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ТРЫБУНА чытачоў

## Над рэчкай Арлянкай

У вёсцы Тафілаўцы Дубіцкай гміны зааралі лугі над рэчкай Арлянкай. Дагэтуль месца тут было дзікае, не кранутае людской рукой. І трава расла дзікая, хоць меліярацыя прайшла даўно, ды ўсё роўна вясной і ў вялікія дажджы рака разліваецца і пакосы сена прападаюць. У гэтым годзе аднак быў і дрэнаж на тафілаўскіх палетках. Уся гэтая праца спрыяцьме развіццю сельскай гаспадаркі ў вёсцы, асабліва павялічыцца колькасць пашы, бо Тафілаўцы былі не надта багатыя сенам.

**М. Панфілюк**

## Задзёрысты кандуктар у дзвярах

27.XI.75 года давялося мне ехаць аўтобусам ПКС з Беластока (гадзіна 16.30) у напрамку Гайнаўка — Масева. Аўтобусы ў гэтым напрамку ў той дзень курсавалі вельмі дрэнна, і таму на гэтую далёкую трасу было многа пасажыраў.

У падстаўленым аўтобусе стаяў у дзвярах малады задзёрысты кандуктар і з невялікімі перарывамі абкідаў уваходзячых людзей брыдкімі словамі. Нягледзячы — жанчына ці дзіцё — браў за каўнер і выкідаў за дзверы. Пасажыры былі вельмі абураны яго паводзінамі. Калі ж нашы кандуктары навучацца культуры?

**Крапіва**




**НЕБА**

*Пайдзі там, к небасхілу,*
*Паглядзі на воблакі —*
*Белыя,*
*сінія,*
*чырвоныя.*
*Ідзі к небасхілу,*
*Хутчэй ідзі!*

**Я. Н.**

**ПЕРШАЕ КАХАННЕ**

*Не табе мяне любіць,*
*не нам разам быць.*
*Скажы, скажы, дарагі,*
*што рабіць, каханы мой!*

*Кахаць цябе не хацела,*
*аб гэтым думаць не ўмела.*
*Ты мяне ў мары ўвёў свае*
*і ўжо нялёгка не любіць цябе.*

*У снах я бачу ўсё цябе*
*і ў белы дзень прыдаешся мне.*
*Як сонечны промень нельга згасіць,*
*так першага кахання нельга забыць.*

**Ірына Грыгарук**
Бельскі беларускі ліцэй

не яго гусі першыя падаліся ў збожжа. Цяпер было тое ж самае. Але марудзіць не выпадала, і Цімошкін, не стрываўшы, падхапіў свой аўтамат.

— Калі так — хай!

Мусіць, ён зрабіў трошкі празмерна, неабдумана, — такая гарачка (сам разумеў) была недарэчы тут, за дваццаць крокаў ад ворагаў. Але ён не хацеў, каб сержанту здалося, што ён баіцца ці таксама шукае лягчэйшага. І ён рушыў да дарогі, не азіраючыся і не думаючы, як і што будзе далей. Наперадзе чарнеў тупарылы абрыс „мерседэса“, за ім быў прамежак крокаў пятнаццаць, і хлопец скіраваў туды. У гэты час ззаду пачуўся шэпт Блішчынскага:

— Пачакай, не злуй — пайшлі разам.

Ён дагнаў хлопца, і яны паволі пайшлі ўздоўж агароджы. Вось абрыс машыны пабольшаў, пад прыдарожнымі дрэвамі вышэйшы стаў яе брызентавы дах, Цімошкін сігануў да яго і праваліўся ў занесеную снегам канаву. Блішчынскі ў той час зноў недзе прапаў, але хлопец не азіраўся, зямляк цяпер стаў для яго ненавісны і непатрэбны. Сцяўшы сэрца і стараючыся ступаць як мага спакайней, ён узышоў на дарогу. За шклом у кабіне задняй машыны цьмяна ўспыхнуў і згас агеньчык цыгаркі. У кузаве „мерседэса“ нешта грукнула, і сонны хрыпаты голас прабурчаў пад брызентам:

— Рухігер, Гейдаль.

**(Працяг будзе)**

## Пуціска абавязалася

Рэалізуючы палітыку нашай партыі па развіццю сельскай гаспадаркі, гаспадары вёскі Пуціска, гміна Гайнаўка, абавязаліся ў 1976 годзе павялічыць жывёлагадоўлю (кароў, свіней, авечак), павялічыць прадукцыю кармоў шляхам засеяння па азімінах паплёнаў, сеяць кукурузу і іншыя кармавыя расліны, зрабіць сіласы, павялічыць колькасць штучных ўгнаенняў на гектар.

**Вада**

## Аб пенсіянерах памятаюць

Пенсіянеры бельскай службы здароўя не могуць наракаць, што пра іх не помняць. З кожным працаўніком, які адыходзіць на пенсію, дырэкцыя ЗОЗ і прафесіянальны саюз праводзяць урачыстае развітанне. Сустрэчы з пенсіянерамі адбываюцца і перад днём службы здароўя. Падобная сустрэча адбылася нядаўна. Прысутнічалі 32 пенсіянеры. Прафесіянальны саюз ЗОЗ падрыхтаваў скромны пачастунак — піражнае, чай, цукеркі. Кожны пенсіянер атрымаў тавары бон на 300 зл. З мастацкай часткай для гасцей выступілі вучні бельскага медліцэя.

Сустрэчы з пенсіянерамі службы здароўя ў бельскім ЗОЗ — гэта добры звычай і варта яго наследаваць.

**В.С.**

## Гаспадар - спецыяліст

У Сукавічах, Шудзялаўскай гміны, не многа такіх гаспадароў, як Мікалай Лапата. Гаспадарыць ён са сваёй жонкаю Галінай на сямі гектарах зямельных угоддзяў. Трэба сказаць, што веды ў гаспадарцы мае вялікія. Ведае добра, што без мінеральных угнаенняў немагчыма вырошчваць высокія ўраджаі. У размове сам кажа, што толькі спецыялізацыя можа даць найбольшую карысць у гадоўлі і сам паводле гэтага дэвізу стараецца рабіць. Ён пачынае спецыялізавацца ў гадоўлі свіней. Цяпер у яго тры свінаматкі, на будучыню плануе павялічыць да пяці штук. Ад гэтых свінаматак у рамках кааперацыі з спулдзельняй сельгастурткоў у Шудзялаве (сядзіба Востраў Паўночны) будзе прадаваць ім вархлякоў.

Апрача гэтага, гадуе ён чатыры малочныя каровы і пяць штук маладняку. Абстаноўка добрая. Пабудаваў новую мураваную хату з усімі выгадамі, як у горадзе. І відаць з гэтага, што на вёсцы можна жыць, як у горадзе, толькі трэба ўмець па-сучаснаму гаспадарыць.

**Я. Бандарук**

## Наш паштальён — гайнаўскі



У Гайнаўцы — з паўночнага краю горада — раёны Падлясе-Пляцоўка, Хімічная-Дольная і суседнія, абслугоўвае паштальён Сяргей Зенюк. Штодзень — у дождж і пагоду, вецер і мароз аб'язджае ён свой раён і даручае газеты і пасылкі. Чакаюць яго і дзяўчаты з пісьмом ад хлопца, і маці з пісьмом ад сына, і пенсіянеры з іхняй пенсіяй. Ужо 19 год гэтак кожны дзень сядае Сяргей на веласіпед і едзе ў свой раён. Шматгадовая праца з'яднала яго з людзьмі, і адносіцца ён да іх, як да сваіх родных — з цёплым словам і ветліва.

Добрая і верная праца Сяргея Зенюка атрымала прызнанне дырэкцыі пошты. Ён нядаўна атрымаў дыплом і значок перадавіка сацыялістычнай працы.

**Э. Вайсковіч**

## Людзі наракаюць...

што сталярка з Гайнаўкі, купленая на дрэваапрацоўчым складзе ці ў магазіне на вуліцы Горнай, дрэнная. Каб зачыняліся ці адчыняліся дзверы або вокны гайнаўскай работы, неабходна наймаць майстра, каб ён пасядзеў са два дні і давёў усё да парадку.

**М. Панфілюк**

## Саколка прыгажэе

Калі прыдзецца табе пабываць у Саколцы, кожны раз убачыш, як робіцца яна прыгажэйшай. Ідзеш па гораду, а ў вітрынак магазінаў усё з сэнсам, прыгожа прыбрана. У вокнах „Практычнай пані“ стаяць вазоны з кактусамі, аж дзіву дзівуешся, адкуль яны такіх і набралі. Куды не павернешся, каляровыя лозунгі, толькі любавацца. Можа прыгажэй усё, як і ў Беластоку...

— Стой, брат, не хваліся! — табе хто скажа, — прыедзь ты сюды поездам ці аўтобусам. Накіруйся ў горад. Адразу каля тратуара плыве ручай з вельмі брыдкай вадой, а ў гэтай вадзе можаш налавіць цэлую тону ўсялякага смецця, многа банак ад рыбных кансерваў. Рыба ў той вадзе здохла б. А цяпер кінься ў бок вакзала ПКП. Адразу каля рэльсаў бачыш ссыпку гарадскога смецця. Чаго там толькі няма! Адной макулатуры дык набраў бы тону. Аж дзіўна, чаму яна не пападае ў скупку, патрэбна ж для прамысловасці. Вось табе і прыгажуня-горад! У цэнтры горада строй, а пакрай — з мятлой стой. А ёсць жа і такая дошка з надпісам, што Саколка ўдзельнічае ў конкурсе парадку і чысціні.

**Ніяк**

## Пра Кнаразы

Кнаразы — вёска ў гміне Храбалы не малая. Праз вёску бяжыць пясчаная дарога, якую ладзілі самі жыхары. Выстараліся і краевугольнікі, і іншыя матэрыялы. У плане быў таксама тратуар з аднаго боку вуліцы. А вось прайшло многа часу — і нічога не відаць. Кнаразоўскія гаспадары дружныя. Не разумею, чаму занядбалі справу.

**Джэны А.**

## З жыцця сельскагаспадарчых школ у Бельску

На заканчэнне фестывалю савецкіх фільмаў, дырэкцыя кіно „Зніч“ у Бельску ўручыла дырэкцыі групы сельскагаспадарчых школ у Бельску памятны медаль Ваяводскага праўлення кіно ў Беластоку за актыўнае супрацоўніцтва ў распаўсюджванні савецкіх фільмаў.

*

Каб лепш забяспечыць школьную сталовую мясам, дырэкцыя школы і інтэрната рашыла весці пры школе гадоўлю свіней. Іх даглядае моладзь і адзін штатны працаўнік. У хляве каля 50 кормнікаў. У 1974 годзе ў гарадскую бойню завезлі 81 кормніка, а да канца кастрычніка гэтага года — 73. Кожны важыць ад 120 да 140 кг.

*

390 вучняў усіх класаў прыступіла да школьных элімінацый XVII алімпіяды ведаў аб Польшчы і сучасным свеце.

*

Звыш 200 гадзін працавала моладзь пры бетанаванні даезду да стаянкі сельскагаспадарчых машын, якія з'яўляюцца дапаможнікамі вучням у навуцы. Працу сваю прысвяцілі VII З'езду.

**Мікалай Няплоха**




**М. Матвеюк.** Але ж выкарыстаем матэрыял пра малацьбу ў Канюках — вельмі ён цікавы. Ужо апрацаваны, у рэдакцыі.

**В. С.** Вельмі ўдзячны за прыгожую беларускую мову вашых матэрыялаў, таксама за матэрыялы, дасыланыя нам. Малая просьба — расшырайце тэматыку.

**П. Дубовіч.** Матэрыял „Абыякавыя на чужую бяду“ не канкрэтны, нават прозвішча пакрыўджаных не падаеце — не можам выступіць у такой сітуацыі. Прадумайце гэтую справу яшчэ раз.

**Т. К.** Пра далейшы дынамічны ўзрост прадукцыі ў Шудзялаўскай гміне вы ўжо пісалі. Чакаем матэрыялаў больш фактаграфічных. Тое ж самае і адносна спраў ветэранаў.

**М. Базылюк.** Верш пра восень падабаецца, як усе вашы, поўныя настрою, вершы. Надрукуем.

## Дарогі

Ужо мінула чатыры гады, як пабудавалі прыгожую жвіровую дарогу з вёскі Белкі ў Трасцянку, а потым пачалі будаваць з Бялок у Агароднікі і там выйшла таксама прыгожая жвіровая дарога.

Каля самай вёскі Трасцянка застаўся адрэзак даўжынёй каля 200 метраў, і няма каму падумаць аб заканчэнні гэтага кавалка дарогі. Відаць, дарожныя ўлады падумалі, што варта пакінуць яго як архіўную памятку, каб людзі ўспаміналі, як калісьці ездзілі па такіх дарогах.

Гэтая дарога мае вялікае значэнне для некалькіх вёсак. І так: дзеці з вёскі Белкі ходзяць у школу ў Трасцянку — 4 кіламетры; таксама дзеці з вёсак Гозна і Агароднікі ходзяць пяшком у школу ў вёску Іванкі. А гэта ўсё з-за 200 метраў недакончанай дарогі.

Мне здаецца, што каб гэтыя 200 метраў былі ў належным парадку, тады для ваяводскіх улад ПКС у Беластоку не было б вялікай праблемай пусціць гэтай жвіроўкай аўтобус. І так, для прыкладу падаю, што аўтобус, які выязджае з Беластока ў Гайнаўку праз Трывежу, можна накіраваць з Трасцянкі праз вёску Белкі-Агароднікі-Іванкі ў Нараў (і з Гайнаўкі таксама). Па шашы з Трасцянкі ў Нараў засталася б толькі адна вёска Анцуты, а ім хапіла б тых аўтобусаў, якія едуць ў Гайнаўку праз Навасады. Аўтобус ПКС, які, едучы з Гайнаўкі, начуе ў Агародніках прадоўжыць у Беласток.

Былі б задаволены дзеці, якім цяжка хадзіць у школу, рабочыя, якія працуюць у ПОМ-е ў Нарве і жыхары вышэй названых вёсак, а таксама іншых бліжэйшых, як Сакі, Каўпакі, якім намнога скарацілася б дарога да аўтобуснага прыпынка. Варта, як мага хутчэй закончыць незакончаны адрэзак дарогі — толькі ж 200 метраў!

На заканчэнне дадаю сваю думку:

Дзе ні глянь —
Хоць у лоб ты трэсні,
Засталося метраў дзвесце,
Людзі гэта добра знаюць —
Бракаробаў праклінаюць.

**М. Лук'янюк,**
Белкі

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**ПАПРАВІЛІ, АЛЕ І САМІМ ТРЭБА ШАНАВАЦЬ**

Крытыкавалі мы выгляд аўтобуснага прыпынка ў Драглях за Саколкай. У гэтай справе атрымалі задавальняючы адказ з **прадпрыемства ПКП у Беластоку,** які і падаем чытачам. Крытыка памагла, як і трэба, каб было.

W odpowiedzi na krytyczną notatkę prasową w tygodniku „Niwa” z dnia 19.10.1975 roku Przedsiębiorstwo Państwowej Komunikacji Samochodowej Oddział Osobowy w Białymstoku uprzejmie informuje jak niżej:
— Oddział w dniu 5.11.1975 roku dokonał naprawy przystanku PKS w Drahlach.
— Obecnie przystanek autobusowy znajduje się w pełnej używalności technicznej.

Ponadto komunikujemy, że Oddział często dokonuje napraw kilkakrotnie jednego przystanku w roku, ponieważ są dewastowane przez chuligańskie wybryki.

**Zastępca Dyrektora do spraw Technicznych**
**inż. Antoni Lewicki**

**УЖО ЁСЦЬ СКУПКА МАЛАКА Ў ГАЛАДАХ**

У 45 нумары „Нівы“ наш карэспандэнт пісаў, што ў вёсцы Галады стаіць новы будынак малачарні і цярпліва чакае, каб пачалася ў ім скупка малака. На нашу крытыку мы атрымалі кароткі ды зразумелы адказ **з Акруговай малачарскай спулдзельні ў Бельску,** якой ад імя нашага і жыхароў Галадоў дзякуем за хуткую і салідную рэакцыю па публічны голас.

W związku z ukazaniem się notatki pt. „Bieda w Hołodach” w gazecie „Niwa” Nr 45 informujemy, że w dniu 14.11.1975 r. na zebraniu rejonowym we wsi Hołody, wyraziła zgodę na podjęcie pracy w punkcie skupu mleka w Hołodach Ob. Maria Kononiuk. Ob. Maria Kononiuk rozpocznie przyjmowanie mleka z dniem 1.12.75 r. po uprzednim wyrobieniu karty zdrowia.

**V-ce Prezes d/s Skupu i Handlu**
**mgr Włodzimierz Siemieniuk**

„Niwa” — Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

